# Бацькаўшчына



ЦАНА 50 Н. ФЭН. — PREIS 50 Pf.

ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“) (8) München 19. Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14.

**Цана: Нямеччына** (іншыя эўрапэйскія краіны бяз Францыі й паўдзённаамэрыканскія краіны): год — 12,5 н. м.; **ЗША** й **Канада:** год — 6,5 дал.; **Ангельшчына** й **Аўстралія:** год — 30 шыл.; **Францыя:** год – 12,5 н. ф. **Паўгода — палавіна пададзенае цаны. Перасылка лётніцкай поштай у ЗША й Канаду каштуе падвойна, у Аўстралію й краіны Паўднёвай Амэрыкі — патройна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE BELORUSSIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND“

№ 2 (602) — НЯДЗЕЛЯ, 24 лютага 1963 — ГОД ВЫДАНЬНЯ 17


# У каго нячыстае сумленьне?

Апошнім часам савецкая прапаганда ўзнавіла свае напады на беларускую эміграцыю. Дзеля гэтага быў выкарыстаны судовы працэс у Нямецкай Фэдэратыўнай Рэспубліцы ў Кобленцы супраць гітлераўскіх эсдоўцаў і эсэсаўцаў за зробленыя імі злачынствы на Беларусі ў часе Другой сусьветнай вайны.

На наладжанай у сувязі з гэтым ў Маскве прэсавай канфэрэнцыі крамлёўскія заправілы намагаліся прычапіць да групы суджаных гітлераўскіх злачынцаў і некаторых беларускіх палітычных эмігрантаў. Іх абвінавачвалі ў супрацоўніцтве зь нямецкімі акупацыйнымі ўладамі, ува ўдзеле ў робленых гітлераўцамі злачынствах і нават дамагаліся выдачы іх савецкім уладам.

Высоўваныя цяпер абвінавачаньні – ня новыя. Гэта паўтор абабітых прапагандовых фразаў, якія камуністы кідаюць заўсёды ня толькі супраць гэтак званых «беларускіх буржуазных нацыяналістых», але супраць усіх, хто ня зь імі. Іхныя-ж публікаваныя цяпер «дакуманты» або нічога не даказваюць, або зьяўляюцца простай падтасоўкай непавязаных паміж сабой здарэньняў, а найчасьцей — сьведамай выдумкай, фальсыфікацыяй.

Варта, аднак, спыніцца над іншымі аспэктамі гэтай савецкай прапагандовай акцыі. Зьвяртаюць на сябе ўвагу ейныя памеры, паўстае пытаньне ейных мэтаў і пытаньне аб тым, наколькі сёньняшнія бальшавіцкія заправілы надаюцца для выконваньня ролі абвінаваўцаў у справе запраўдных і ўяўных злачынстваў у дачыненьні да беларускага народу.

Гаворачы аб памерах гэтай бальшавіцкай акцыі, трэба прыгадаць, што яшчэ перад маскоўскай канфэрэнцыяй і кобленцкім працэсам у БССР быў змантаваны спэцыяльны «дакумантальны фільм», прызначаны для выкананьня адначасова двух заданьняў: паказаць увесь беларускі нацыянальна-антыбальшавіцкі рух з часоў Другой сусьветнай вайны як агентуру нямецкага нацызму і як суадказнага за гітлераўскія злачынствы на Беларусі — з аднаго боку, а з другога — прычапіць і замацаваць гэты ярлык да ўсяе актыўнае беларускае палітычнае эміграцыі. Гэты фільм прызначаны перш за ўсё для нутранога карыстаньня — для прапаганды сярод беларускага насельніцтва. Ягоная больш сьціслая мэта — відавочная: скампрамітаваць і здыскрэдытаваць перад народам на Бацькаўшчыне ўсю дасюлешнюю беларускую нацыянальна-незалежніцкую думку і выклікаць недавер да голасу беларускай эміграцыі, які рознымі шляхамі пранікае на Беларусь. Гэтая мэта праходзіць, зрэшты, чырвонай ніткай праз усю бальшавіцкую прапагандовую літаратуру, прысьвечаную нацыянальнаму пытаньню.

Зусім відавочна таксама, што з другога боку, ўзьняцьце пытаньня эмігрантаў на маскоўскай прэсавай канфэрэнцыі з удзелам замежных журналістых і пазьнейшыя захады Масквы перад Бонскім урадам аб выдачы саветам некаторых асобаў былі ськіраваныя ў першую чаргу на дыскрыдытацыю беларускай эміграцыі перад грамадзкасьцяй краінаў вольнага сьвету. Гэтым разам Крэмль прыплёў прынагодна беларускіх эмігрантаў да патоку традыцыйнай камуністычнай прапаганды супраць Нямецкай Фэдэратыўнай Рэспублікі. Чаму-ж не забіць адразу двух зайцаў?! Масква гэтую тактыку ўжывае дзе толькі можна — праўда, з рознымі вынікамі. Зусім нядаўна яны яе выпрабоўвалі на скуры Украінцаў. Забіўшы лідэра украінскіх нацыяналістых Бандэру, яны адразу ў забойстве абвінавацілі нямецкага міністра для справаў уцекачоў Обэрлендэра, супраць якога яны ўжо вялі даўгую і бесьперапынную атаку. І думаеце – не знайшлося такіх, што ў гэта верылі? Обэрлендэр быў зьняты з міністарскага становішча. І толькі цуд — пераход забойцы Бандэры (савецкага агента) на Захад — перешкодзіў Крамлю сабраць плады свае тактыкі: «абясшкодзіць' двух небясьпечных для яго асобаў — па магчымасьці чужымі рукамі. Цяпер гэту тактыку (у новым варыянце) яны пробуюць ужыць і ў дачыненьні да беларускіх эмігрантаў. Думаем, што ім гэта ня ўдасца, бо людзі вучацца на сваіх памылках.

Як-бы там ні было, закранутыя тут савецкія правакацыі і бесьперабойныя напады на гэтак званых беларускіх «буржуазных нацыяналістых» — гэта доказ таго, што бальшавіцкае «разьвязаньне» нацыянальнага пытаньня на Беларусі не задавальняе наш народ. Сорак зь лішнім год бязупыннай камуністычнай прапаганды не зламалі ў нашым народзе сьведамасьці таго, што запраўдная свабода і нацыянальная незалежнасьць ня мае нічога супольнага з тым рэжымам, які ён церпіць цяпер. І чым мацней лаюцца крамлёўскія дыктатары, тым больш доказаў гэтага мы маем.

Беларускую палітычную эміграцыю абвінавачваюць у злачынствах супраць беларускага народу, дамагаюцца стаўляць пад суд. Хто гэта, гэтыя абвінаваўцы? Гэта прадстаўнікі рэжыму, злачыннасьць якога супраць чалавецтва ня мае сабе роўных у гісторыі, і вядомая ўсяму сьвету. Хто можа падлічыць колькасьць у нічым нявінаватых людзкіх ахвяраў, зьмерыць мора сьлёз і крыві, што цяжаць на сумленьні прадстаўнікоў бальшавіцкае сыстэмы? Толькі ўстрымоўваючы дыханьне чалавек думае аб тым, што памеры ахвяраў савецкага рэжыму ляжаць нейдзе ў межах ад 10 до 20 мільёнаў людзкіх жыцьцяў. Сталін у свой час хваліўся Чэрчылю ў Ялце, што адна калектывізацыя каштавала народам Савецкага Саюзу 10 мільёнаў чалавек! І гэта ў мірны час! А гэта, ведама, далёка ня ўсё! Сталіна вынесьлі з маўзалею, але паклалі пад сьценамі Крамля разам зь іншымі камуністычнымі дзеячамі. Пакаралі! называецца... Але Сталін, якбы ён ні стараўся, такой масы людзей адзін вынішчыць ніколі ня здолеў-бы. Ды ён сам гэтага й не рабіў. Для гэтага існаваў вялізарны апарат тэрору, імя якога — савецкая дзяржаўная сыстэма. Сыстэма гэтая разам з Сталінам не памерла, яна існуе далей. А ў ёй на кіруючых становішчах далей сядзяць тыя, рукі й сумленьне якіх заплямленыя крывёй мільёнаў нявінаватых людзей. І мы яшчэ ня чулі, каб гэтак званая «сацыялістычная законнасьць» і савецкае «правасудзьдзе» прыцягнулі да судовай адказнасьці хоць-бы аднаго зь вялізарнай арміі гэтых крывавых злачынцаў. Наадварот, савецкая «сацыялістычная законнасьць» і сяньня, як у найбольш дзікія часы, адсякае людзям галовы, напрыклад, за «растрату дзяржаўнай маемасьці»...

Беларуская палітычная эміграцыя суду не баіцца. У кажную хвіліну мы гатовы стаць перад беларускім народным судом і адказваць за ўсе свае ўчынкі. Але, паўтараем, — перад беларускім запраўдны народным судом, а не перад судом шайкі бандытаў. У нас сумленьне чыстае. Нават у нязьмерна цяжкіх і складаных абставінах Другой сусьветнай вайны, калі дзьве таталітарныя, імпэрыялістычныя сыстэмы зводзілі на нашай Бацькаўшчыне свае захопніцкія парахункі і руйнавалі наш край, беларускі нацыянальны актыў заставаўся верным сваім абавязкам – ратаваць ад зьнішчэньня свой народ, свой край дзе, як і калі толькі было можна. Зразумела, што ўва ўмовах гітлераўскай акупацыі не заўсёды гэта ўдавалася, як не заўсёды ўдавалася і ўдаецца беларускім патрыётам абараніць інтарэны свайго народу ад разгулу чырвонага расейскага нацыяналсацыялізму ува ўмовах бальшавіцкай акупацыі.

Так, злачынцаў трэба судзіць. І хай ня думаюць бальшавіцкія заправілы, што ім удасца ашукаць гісторыю: заміж самым сесьці на лаву падсудных — вечна заставацца ў ролі абвінаваўцаў.

# Дыяген шукаў чалавека, а Беларус — акуляраў...

Старажытны грэцкі філёзаф Дыяген часта ў сонечны дзень хадзіў па вуліцах Афінаў з запаленым ліхтаром. Калі-ж у яго пыталіся, што гэта азначае, ён адказваў: «Шукаю чалавека». Пачуўшы гэта, адны хіхікалі, іншыя задумоўваліся. Гэта былі добрыя часы, калі яшчэ нічога ня ведалі аб сацыялістычным рэалізьме.

У старажытняй Грэцыі існавала яшчэ адна цікавая школа філёзафаў, якіх называлі «пэрыпатэтыкамі». Называлі іх так таму, што яны падчас сваіх філязафічных спрэчак не сядзелі, не ляжалі, але хадзілі, прыкладам, навокал Акропалю, і горача дыскутавалі. Калі-б цяпер на вуліцах Менску зьявілася такое таварыства дыскутантаў – імі адразу зацікавіліся-б органы дзяржаўнай бясьпекі. Але ў тыя прыгожыя часы Дыягенаў, Плятонаў, Арыстотэляў ня было ні дзяржаўнай бясьпекі, ні сацыялізму.

Затое ў нашыя часы асваеньня цаліны й космасу, мадэрнізму і сацрэалізму на вуліцах падсавецкіх гарадоў зьявіліся іншыя пэрыпатэтыкі. Праўда, яны не філязафуюць, а проста шукаюць, дзе можна купіць патрэбныя ім рэчы. І, зразумела, яны, не знайшоўшы гэтых рэчаў, ціхенька, але моцна лаюць «родную» уладу.

У сёлетнім 5-ым нумары «Зьвязды» — нататка пад загалоўкам: «Калі няма сваякоў». Коратка перакажам зьмест. Інтэлігент у Воршы, які мусіць разьбірацца ў складаных рысунках і чытаць [illegible]разныя тэксты — паволі траціць зрок. Ён ідзе ў паліклініку — як нармальна, стаіць у чарзе — і, урэшце, атрымоўвае рэцэпт на акуляры. Шчасьлівы, ён бяжыць у аптэку. Абыйшоў усе — такіх акуляраў няма. Ён ня траціць надзеі — едзе ў Віцебск. Дарэмна — такіх акуляраў няма. Але чалавек — аптымісты, і ўсё яшчэ ня траціць надзеі. Едзе ў сталіцу – у Менск. І вось, ня зусім як Дыяген зь ліхтаром, ён без акуляраў шукае акуляраў. Пехатой абыйшоў усе менскія аптэкі. Урэшце знайшоўся талковы аптэкар, які яму вытлумачыў, што ўва ўсёй беларускай рэспубліцы ёсьць акуляры толькі із сфэрычным шклом, а пацыенту прыпісанае шкло цыліндрычнае. Пры гэтым аптэкар даў добрую інфармацыю, што акуляры з цыліндрычным шклом можна купіць толькі ў Львове і, калі пацыент мае сваякоў або знаёмых у Львове — хай адразу напіша. Ні сваякоў, ні знаёмых у Львове — гэта значыць, заграніцай — ён ня меў. Такім чынам, «пэрыпатэтык» з прымусу, аб'ехаўшы некалькі гарадоў, вярнуўся зь Менску ў Воршу без акуляраў.

У прыгаданай нататцы не гаворыцца, ці грамадзянін, які абыйшоў некалькі гарадоў, шукаючы акуляры, меў філязафічныя ўхілы. Аднак можна прыпусьціць, што едучы зь Менску ў Воршу, ён філязафічна думаў аб сыстэме савецкага плянаваньня. А каб споўнілася тое, што ён жадаў савецкім плянавіком, напэўна гэта не пайшло-б ім на здароўе.

Урэшце-рэшт, што-ж атрымоўваецца: савецкая прапаганда крычыць аб нячуваных дасягненьнях савецкай тэхнікі. Нават задні бок Месяца сфатаграфавалі. Але падсавецкі чалавек ува ўсёй рэспубліцы ня можа знайсьці патрэбных акуляраў...

Дыяген удзень з запаленым ліхтаром у натоўпе людзей шукаў чалавека. Гэта можна назваць капрызнай прыхваткай філёзафа.

Але тое, што ў другой палавіне 20-га стагодзьдзя чалавек шукае акуляраў і іх ня можа знайсьці — можна толькі назваць адным з шматлікіх парадоксаў савецкай рэчаіснасьці.

**пс**

# У БССР забаронены навукова фантастычны раман

Француская газэта «Ле Монд» падала вестку аб зьняцьці з продажу ў БССР раману маладога беларускага пісьменьніка Мікалая Гамолкі. Газэта «Ле Монд» пісала:

«,Савецкі касманаўт выйшаў з ракеты, дзе тэмпэратура была высокая, каб схапіць сьвежага паветра, і, заўважыўшы набліжэньне вялізарнага мэтэарыта, узьняў трывогу. Так ён выратаваў ад пэўнай сьмерці ўвесь экіпаж савецкіх касманаўтаў'.

Гэтая фраза з навукова-фантастычнага раману аднаго беларускага пісьменьніка – Мікалая Гамолкі, – раману, апублікаванага ў гэтай рэспубліцы, выклікала злосьць «Літаратурнай газэты», якая войстра раскрытыкавала сюжэтную пабудову твору і вульгарны стыль самога аўтара. Пасьля гэтай крытыкі раман быў забаронены міністэрствам культуры Беларусі, а дзяржаўнае выдавецтва рэспулікі, якое яго апублікавала, забавязалася ад гэтага часу больш пільна сачыць за тэматыкай твораў, якія яно атрымлівае для публікацыі.

Пасьля апублікаваньня, кніга спадабалася моладзі і ейны аўтар атрымаў шмат лістоў з выказваньнямі захапленьня. Літаратурныя колы ўважалі, што яны йдуць насустрач пажаданьням моладзі, якая цяпер выяўляе вялікае зацікаўленьне праблемамі космасу. Але крытыка «Літаратурнай газэты» была іншай думкі.

Забароненая цяпер кніга была выдадзеная ў сто тысячах экзэмпляраў.»

# Пасьля першых адгалоскаў

Кажнаму аўтару, асабліва калі праца ягоная паважная тэмай і разьмерам, карціць ведаць думку чытачоў. У эміграцыйных абставінах водгукі й крытыка асабліва вартасныя, бяручы на ўвагу, што ўмовы для творчасьці тут цяжкія й няспрыяльныя. Гэткі ўжо лёс палітычнага эміграНта.

Мінуў ужо блізка год ад часу, як «Змагарныя Дарогі» трапілі ў рукі чытачоў. Паводля першых адгалоскаў цяжка меркаваць яшчэ аб вартасьці працы, ды хіба-ж аўтару адно выпадала-б сядзець і прыслухоўвацца як ганяць ці хваляць. І гэты скупы артыкул зьявіўся не з намерам самагратыфікацыі. Адылі пэўныя рэчы ўжо цяпер уважаю сваім абавязкам высьветліць.

Найперш хочацца падзякаваць чытачом, што то вусна, ці пісьмова, выказалі аб успомненым творы свае думкі. Іхныя выказваньні зьяўляюцца да гэтага часу адзіным і бадай ці не найлепшым баромэтрам ня толькі ў адносінах да «Змагарных Дарог», але ў ладнай меры вымярае наагул ступень літаратурнай зацікаўленасьці нашага эміграцыйнага грамадзтва.

Мімабегам аддаю вялікае дзякуй усім кальпартэрам «Бацькаўшчыны» ды іншым добразычлівым сябром, што прыйшлі мне на дапамогу пры распаўсюджваньні кнігі, зьбіраньні й складаньні ахвяраў на пакрыцьцё даўгоў за выданьне яе. Даўгі гэтыя яшчэ адно напалавіну пакрытыя і тых, што змаглі-б далей дапамагчы, прасіў-бы гэта зрабіць.

Да гэтага часу нарабілі найбольш шуму пераважна мамэнты палітычна-вайсковага характару, адлюстраваныя ў кнізе. На іх хачу гэтта спыніцца.

Зьбіраючы матарыялы для «Змагарных Дарог», у свой час я прасіў шмат каго, каб памаглі інфармацыямі. Ад часу апошняе вайны сплыло шмат вады. Тое, што тады магло паказацца нам у сьветлых колерах, сяньня выглядае чорным або наадварот. Груповае палітыканства на эміграцыі шмат чаго больш зацямніла, чым высьвятліла. З пэрспэктывы часу лягчэй ацэньваць падзеі, характарызаваць людзей адно тады, калі ёсьць доступ і да людзей, што бралі ў іх удзел і да архіўных матарыялаў, ды калі ёсьць умовы да гэтага. Калі-ж няма такіх перадумоваў, тады ствараецца зусім адменная, і для бальшыні тых, што й жадалі-б такімі працамі займацца, проста напрост немагчымая сытуацыя. Усё гэта добра мне было ведама, бяручыся за працу над «Змагарнымі Дарогамі». Давялося разьлічваць адно на добрую волю людзей, што былі ў віры беларускіх гістарычных падзеяў ды маглі меншбольш аб'ектыўна ацэньваць іншых і інтэрпрэтаваць выпадкі, ці навет прыгадваць простыя факты. Шматлікія людзі, выказваньні й інфармацыі якіх былі нагвалт неабходнымі дзеля аб'ектыўнага насьвятленьня падзеяў, зусім не рэагавалі на мае звароты, уважаючы, відаць, што, як той казаў: «вось там нехта йзноў носіцца зь нейкім праектам, зь якога й так выйдзе пшык». Зь іншымі-ж, на вялікі жаль, навет не ўдалося ўстанавіць пісьмовага кантакту. І вось давялося арганізаваць, ацэньваць, узважваць, перасейваць тое, што ёсьць, што было вядома ды й намагацца на гэнай аснове знайсьці нейкі аб'ектыўны вобраз як характарызаваных падзеяў так і ўдзельнікаў іх. Ня ўсюды гэта ўдалося.

Ужо пасьля выхаду кнігі, з водклікаў прыйшло шмат новага й цікавага. Гэты новы мтар'ял будзе, бязумоўна, выкарыстаны некалі пры перапрацоўцы твору для перавыданьня (на вольнай Бацькаўшчыне!). Пакуль-жа тое будзе, ужо цяпер хачу выправіць адну прыкрую памылку, бо ёсьць гэта маім маральным і аўтарскім абавязкам.

Дзякуючы няведаньня некаторых фактаў і бяз дрэнных задніх думак у кнізе зроблена вялікая крыўда былому камандзеру афіцэрскае школы БКА ў Менску капітану Ласкутовічу. На вялікі жаль, былыя вучні гэтай школы яшчэ й сяньня маюць дрэнную думку аб капітану Ласкутовічу, а я гэны крывы вобраз заслужанага беларускага школьнага працаўніка, вайскоўца й насамперш вялікага патрыёты, дзякуючы недастатковым або хвальшывым інфармацыям, замацаваў у сваёй кнізе. За гэта прашу капітана Ласкутовіча мне выбачыць і хачу падаць да ведама высьветленыя факты.

Атрымаўшы загад аб эвакуацыі зь Менску, капітан Ласкутовіч папрасіў капітана Мікулу, каб на час пераняў школу, бо сам хацеў заехаць па сям'ю. Мікула згадзіўся. Не дастаўшы дазволу ад камандуючага БКА на адлучку па сям'ю, Ласкутовіч зьвярнуўся да прэзыдэнта БЦР, які даў яму дазвол. Раніцаю 29-га чэрвеня капт. Ласкутовіч, прадставіўшы капітана Мікулу кадэтам, разьвітаўся зь юнакамі. Ажно 2 ліпеня, пасьля шматлікіх прыгодаў, ужо разам зь сям'ёю, ён далучыўся да школы ў Вільні.

Усюды быў вялікі хаос. Беларускія цывільныя й вайсковыя ўлады ня мелі ніякай кантролі над адступаючымі цывільнымі й жаўнерамі. Бачачы гэта, ды намагаючыся вярнуць нейкую арганізаванасьць, капітан Ласкутовіч наважыўся зьвярнуцца з пэўнымі прапановамі да прэзыдэнта БЦР, што пераездам затрымаўся ў Вільні. Найбольш баяўся Ласкутовіч таго, каб гітлераўцы не паслалі на бойню нявышкаленых «зялёных» кадэтаў зь ягонае школы. Таму ён хацеў адвесьці іх як найдалей ад фронту.

Якая-ж была рэакцыя Астроўскага?

Выслухаўшы камандзера школы, ён выдаў пісьмовы загад, паводля якога капітан Ласкутовіч звальняўся з займанага

(Заканчэньне на 2-ой бач.)

# ГАРЫСЛАВА

У № 78 «Беларуса» быў летась зьмешчаны артыкул Ю. Віцьбіча пад загалоўкам — «Зь мячом Рагнеды, з крыжом Прадславы». Над загалоўкам гэтым — які мне чамусь не падабаецца — можна было-б прайсьці моўчкі, калі-б гэта быў толькі звычайны загаловак газэтнага артыкулу, а не т. зв. патрыятычны лёзунг, які няраз ужо ў нашым друку паўтараўся і які мабыць няраз яшчэ будзе паўтарацца. З увагі на гэта пару слоў аб гэтым.

Папершае — дзеля таго, што сама Рагнеда гэта старая лягенда, меч ейны гэта ўжо выдумка сьвежай даты, бо-ж зарэзаць Валадзімера легендарная Рагнеда прабавала не паэтычным мячом, але празаічным нажом.

Падругое — нож забойцы не зьяўляецца таварыствам для крыжа, бо-ж крыж – як Ю. Віцьбічу ведама — сымбалізуе Таго, які ня толькі вучыў любіць бліжніх, але навет сваіх ворагаў.

Нехта мог-бы заўважыць, што калі ўжо пачаць прыдзірацца, дык ня толькі нож забойцы не зьяўляецца адпаведным таварыствам для крыжа, але і рыцарскі меч, бо-ж паводля боскіх законаў чалавек наагул ня мае права забіваць чалавека. На маю думку, гэта было-б слушна, калі-б на сьвеце забавязвалі не чалавечыя, але боскія законы. Паводля-ж чалавечых законаў (заданьне якіх — ня столькі зьблізіць чалавека да каралеўства Божага на зямлі, колькі адцягнуць яго якнайдалей ад джунгляў) змаганьне чалавека з чалавекам талеруецца — пры роўных шансах абароны і пры аднолькавай рызыцы сьмерці. «Ляжачага ня б'юць», казалі ў сераднявеччы і гэта быў крок наперад. Падрэзаць-жа сьпячаму горла — гэта ўжо крок назад, да джунгляў.

Прыгадаем цяпер старую лягенду аб грузінскай царыцы Дзінары:

Пасьля сьмерці івэрскага валадара Аляксандра Мелека ягоны пасад заняла ягоная адзіная дачка — 15-ці гадовая Дзінара. Калі чутка аб гэтым дайшла да пэрсыдзкага цара, той запатрабаваў ад Дзінары прыняць ягонае падданства, але яна адмовілася. Тады пэрсыдзкі цар выступіў паходам на Івэрыю. Івэрская шляхта, спалохаўшыся Пэрсаў, пала духам, але Дзінара, памаліўшыся да Багародзіцы, падняла іхны дух і ў выніку пэрскае войска было разьбіта, а пэрсыдзкі цар зьгінуў у біцьве ад рукі царыцы Дзінары.

Вось-жа, калі-б лягенда аб Рагнедзе была ўзаравана на гэтай грузінскай лягендзе, г. зн. калі-б Рагнеда змагалася з ворагамі сваёй бацькаўшчыны не нажом, але зь мячом у руках, і ня ў спальні, але на полі бою, дык лёзунг «Зь мячом Рагнеды» меў-бы свой сэнс, навет калі-б Рагнеду і ўважаць толькі выдумкай.

Дык чаму-ж тады – так і хочацца спытацца – аўтар лягенды аб Рагнедзе ня выдумаў для Рагнеды такой гісторыі, якая была-б ня горшай ад гісторыі легендарнай царыцы Дзінары? — На гэта можна было-б адказаць, што ў часе, калі тварылася лягенда аб Рагнедзе (г. зн. на мяжы XI і XII стагодзьдзяў), ня было наагул ніякай патрэбы выдумляць фікцыйных герояў тыпу царыцы Дзінары, бо тады яшчэ ня ўлёгся быў баёвы пыл, падняты праўдзівым героем — ужо за жыцьця легендарным — Усяславам Чарадзеем. Ці-ж праўда аб вялікім Усяславе была горшай ад выдумак аб царыцы Дзінары? Калі паўстагодзьдзя пазьней аўтару «Слова аб Ігаравым паходзе» спатрэбіцца ўзорны князь-барацьбіт, як прыклад для сваіх сучасьнікаў, ён — замест пароцца ў лягендах, затрымае свой выбар на несьмяротным Усяславе. Ягоная бітва над Нямігай (упісана, калі не залатымі, дык крывавымі літарамі ў гісторыю нашай бацькаўшчыны) застанецца вечна жывым, бо ня выдуманым, узорам ваеннай славы нашых прапрадзедаў.

Адным словам — у часе, калі тварылася лягенда аб Рагнедзе, Полацак, маючы ўжо і Усяслава Чарадзея і славы па горла — ня меў анікай патрэбы выдумляць ані Рагнеды-Дзінары, ані тым больш Рагнеды-Гарыславы. Калі аднак няшчасная Гарыслава для Полацку напэўна ня была патрэбнай, дык гэтага нельга сказаць аб Кіеве. Бо ці-ж не патрэбнай была для Кіева такая лягенда, якая-б тым, бацькі якіх ляглі над Нямігай, як і тым, што самі палягуць над іншымі Нямігамі, здолела даць адказ на балючае пытаньне: чаму гэта крывіцкія князі такія зацятыя ды чаму яны так ненавідзяць рускіх князёў?

Лягенда аб Рагнедзе зьмешчана ў Лаўрэнцкім летапісе пад 1128 годам. У Іпацкім летапісе пад гэтым годам гэтай лягенды няма, затое знойдзем там дадатковую ілюстрацыю той атмасфэры, у якой нарадзілася лягенда аб Рагнедзе.

Кіеўскі князь Мсьціслаў, выбіраючыся з усімі рускімі князямі ў паход на Полаўцаў, запрасіў у гэты паход і ўсіх крывіцкіх князёў, сыноў і ўнукаў Усяслава Чарадзея. Крывіцкія аднак князі («Кривитьстеи князе» або «Кривкие князи», як называе іх рускі летапіс) ня толькі ня прынялі гэтага запрошаньня (ісьці «в Рускую землю в помощь»), але пажадалі ваеннага шчасьця ня ім, рускім князём, але іхным ворагам — Полаўцам («но паче могвяху Бонякови шелудивому во здоровье», – абураецца рускі летапісец).

Якім-жа чынам кіеўскі аўтар лягенды аб Рагнедзе стараўся вытлумачыць гэтую варажнечу паміж крывіцкімі і рускімі князямі? — Прапрадзед рускіх князёў — паводля яго — зганьбіў быў прапрабабку крывіцкіх князёў і крывіцкія князі вось і помсьцяцца крывава й заўзята на рускіх князёх за гэтую старую зьнявагу. («И оттоле мечь взимають Рогволожи внуци противу Ярославлим внуком»).

Лягенда аб Рагнедзе хаця і была дзяцінна наіўнай, але, як на свой час т. зв. цёмнага сераднявечча, ня была благой лягендай, што бязумоўна яшчэ ня значыць, каб яна была праўдзівай, як думаюць (?) сучасныя нашыя прапагатары культу Рагнеды. Заместа, каб на фоне гістарычнага Усяслава Чарадзея вытлумачыць зьяўленьне ў Кіеве легендарнай Рагнеды, яны, паверыўшы у «крыўду Рагнеды», фонам чужой лягенды абязглуджваюць чыны Усяслава, цьвердзячы, што нашыя прапрадзеды, ня маючы быццам нічога лепшага рабіць, морам крыві змазвалі гэтую Рагнедзіну ці «Рагвалодаву крыўду». («Рагвалодава Крыўда і гвалт Уладзімера над Рагнедай, а пасьля помста Усяслава Чарадзея... зьяўляюцца найпрыгажэйшымі разьдзеламі нашае старажытняе гісторыі», — «Беларускае Слова» № 78). І ўжо нат дайшлі да таго, што, вырываючы з моцных рук вялікага Усяслава ягоны меч, уціскаюць яго ў сумлеўныя рукі ўяўнай Рагнеды...

У лягендзе аб Рагнедзе калі й ёсьць што праўдзівае, дык гэта мабыць перакананьне ейнага аўтара, што ў такім зубастым народзе, як крывіцкі, напэўна-ж і жанчыны кусьлівыя. А наагул уся яна — не без барады. Першая частка яе (паход Валадзімера на Полацак) гэта перапрабка т. зв. Корсуньскай лягенды аб сватаўстве Валадзімера да корсуньскай князёўны. У другой частцы — спроба забойства Рагнедай Валадзімера – Рагнеда прыгадвае біблійную Юдыту.

Біблійную гісторыю аб Юдыце аўтар лягенды аб Рагнедзе напэўна-ж знаў, але гэта яшчэ ня значыла-б, што Рагнеда была сьлепа мадэлёвана ім на ўзор Юдыты, бо прызначаньне гэтых дзьвюх лягендаў было рознае. Сягоньняшнія нашыя міталёгі, якім вельмі хацелася-б, каб мы на Регнеду глядзелі так, як Жыды на Юдыту, г. зн. як на нацыянальнага героя, намагаюцца Рагнедзе даць аблічча Юдыты. Пару слоў затым аб Юдыце.

Калі асырыйскае войска на чале з гэтманам Галёфарнэсам увайшло ў Юдэю, Юдыта, у вадрозьненьне ад царыцы Дзінары, замест падняць заняпалы дух сваіх землякоў і павесьці іх на ворага, наважваецца з ворагам сваёй бацькаўшчыны расправіцца сама. Веручы, што сіла варожай арміі трымаецца толькі на гэтмане, забіць гэтага гэтмана гэта і ёсьць ейнай мэтай, спадзяючыся на сваю красу. І вось, пралезшы ў варожы лягер і бясьпечна дайшоўшы да Галёфарнэса, ужо на чацьвертую ноч яна была зь ім. Паводля словаў Юдыты — Галёфарнэс, устаўшы ад бяседнага стала, зразу-ж зваліўся мёртва п'яны на ложак, яна-ж, выцягнуўшы спад падушкі ягоны меч (дзе мы ўжо бачылі гэты меч?), двумя ўдарамі адсекла яму галаву, схавала яе ў мяшок і вярнулася да сваіх. На другі дзень асырыйскае войска пачала ў страху ўцякаць, Жыды-ж, набраўшыся духу, адважна даганялі. Юдыта, як народны герой, сталася узорным мадэлем на будучыню.

Мадэль гэты, (як ідэальны для слабых народаў), хацеў выкарыстаць на ўжытак польскага народу Ю. Славацкі ў сваім «Кордыяне». (А ці над «Канрадам Валянродам» Міцкевіча ня ўзносіцца тойжа дух Юдыты?). Але Кордыян у вапошнюю мінуту нэрвова заламаўся. Ня кажучы ўжо аб тым, што ёсьць людзі, якім нэрвы не дазваляюць забіць навет пеўня, як сьветчыць гісторыя з парыскім катам, адсячы мячом галаву на холадна гэта не такая простая справа. Калі аднойчы давялося выканаць прысуд над шляхцічам, што паводля закону мусіў выканаць кат сваімі рукамі, ён так здэнэрваваўся, што адсячы галаву яму ўдалося толькі за трэцім ударам...

Паэты й пісьменьнікі, што ў паэмах сваіх і драмах пераапявалі легендарную Юдыту, прыйшлі да перакананьня, што Юдыта, як чалавек, настолькі нэрвова зраўнаважаная, што гэта хутчэй робат ці Франкенштайнаўскі нелюдзь, як жывая асоба. Што Юдыта, ідучы ў варожы лягер, мела на думцы прыслужыцца бацькаўшчыне, аб гэтым ніхто не сумляваецца, але ў часе, калі яна падымала меч над галавой незнаёмага і магчыма цалкам сымпатычнага чалавека, сумлеўна, каб яна думала толькі аб бацькаўшчыне. Каб сіла ўдару мяча была дастатковай і каб рука не здрыганулася — між ёй і ім у тую ноч мусіла нешта быць, але што? Адны кажуць, што, выбачце, яна, маладая й гарачая ўдовушка, не знайшоўшы ў ім мужчыны, забіла яго з пагарды, як расчараваная жанчына. Іншыя кажуць, што, будучы з натуры халоднай, калі ён яе ўзяў сілай, забіла яго з агіды. Паводля гэтага другога варыянту пісаў сваю драму аб Юдыце нямецкі паэт Ф. Гэббэль.

А як было з Рагнедай? — Перш за ўсё трэба падкрэсьліць, што аб Рагнедзе мы маем дзьве розныя лягенды, ці — лепш кажучы — дзьве лягенды аб двух розных Рагнедах. Хто гэта замоўчвае — той хвальшуе факты, а хто гэтаму пярэчыць – той маніць). Пачнем ад першай.

Калі Рагнеда адмовіла руку Валадзімеру, той, здабыўшы Полацак, гвалціць яе на вачох бацькоў, пасьля-ж (на вачох Рагнеды?) забівае ейнага бацьку, а яе, забраўшы з сабой, кідае ў нейкім сяльцы пад Кіевам. Тут, на чужой зямлі, Рагнеда родзіць Ізяслава і разам зь ім доўгія гады гаруе, як тыя сіроты пад плотам. І ад гэтага вялікага дзявочага гора яе і празвалі — Гарыславай. Аж вось аднойчы — пасьля многіх год — зьяўляецца ў Рагнеды Валадзімер і яна, карыстаючы з гэтай першай нагоды, помсьціцца. Забіць аднак Валадзімера («зарезати ножемь») ёй не ўдалося. «Ты — апраўдвалася перад ім — з маёй-жа прычыны бацьку майго забіў і зямлю ягоную паланіў, а цяпер ані мяне ані сына майго ня любіш.»

Вось-жа, з гэтага вынікала-б, што Рагнеда хацела забіць Валадзімера не за тое, што ён зрабіў, а за тое, чаго ён рабіць не хацеў, а гэта — палюбіць яе. Бо калі-б ён любіў яе, дык ейнае сэрца – растапіўшыся ў вагні ягонага каханьня — ўсё яму даравала-б, бо й усе ягоныя злачынствы былі-б толькі сьветчаньнямі вялікага каханьня. А хто многа кахае, таму многа і даруецца...

Апрача гэтай Рагнеды-Гарыславы, маем іншую Рагнеду. Розьніца паміж імі тая, што першая — Гарыслава — мела толькі аднаго сына і жонкай Валадзімера ніколі ня была, другая-ж Рагнеда — гэта законная жонка Валадзімера, матка чатырох сыноў і двух дачок. («И быша ему водимыя: Рогнедь, юже посади на Лыбеди иде же ныне стоить сельце Пред-

(Занчэньне на 3-яй бач.)

## Пасьля першых адгалоскаў

(Заканчэньне зь 1-ай бач.)

становішча. Ст. лейт. К-і быў прызначаны камандзерам школьнае роты, а капітан Мікула быў затрыманы пры школе як прадстаўнік ад БЦР. Паінфармаваўшы двух апошніх аб зьменах, капітан Ласкутовіч усё-ж наважыўся трымацца школы, памагчы юнаком ад'ехаць найдалей ад фронту, каб Немцы іх ня кінулі ў вагонь. Характэрна, што з прычыны нейкага дзіўнага недагляду, найбольш зацікаўленыя, значыцца самі кадэты, нічога афіцыйна так і ня ведалі аб зьмене каманды. Вось чаму, калі капітан Ласкутовіч адлучыўся ад школьнае роты ў Плоцку ды разам зь сям'ёю паехаў у Нямеччыну, нехта сказаў, што камандзер школы «змыўся» ці проста «пакінуў нас». Аж да сяньняшняга часу ў сьведамасьці шматлікіх пануе памылковая думка, што капітан Ласкутовіч быў дэзэртырам, што, у сьвятле вышэйсказанага, зьяўляецца няпраўдай.

Ня ўсім ведама, што капітаны Мікула й Ласкутовіч, пабачыўшы безгалоўе ў БЦР, былі добра прадыскутавалі й устанавілі агульны кірунак дзеяньня на будучыню. У ім прадбачвалася арганізацыя Беларускага войска (не СС ці паліцыі) пад нацыянальным сьцягам, папаўненьне школы БКА й навучаньне афіцэрскіх кадраў, эвэнтуальная сувязь з заходнімі хаўрусьнікамі й пераход на іхны бок дзеля рэалізацыі вызваленьня Бацькаўшчыны. У сьвятле гэтага факту й лягчэй зразумець апісванае ў «Змагарных Дарогах» выступленьне капітана Мікулы на канфэрэнцыі ў Эльбінгу. Будучы там адным із старэйшых беларускіх афіцэраў, не спадзяючыся ад малодшых актыўнай падтрымкі на канфэрэнцыі, ён, мусіць, трымаўся тэй узгодненай з Ласкутовічам ідэі. Пэўна-ж, Мікула ня быў фантазэрам. Як тады вытлумачыць тое, што кінуў маскалём у вочы: «даволі намі камандавалі маскалі! Гэта нашы людзі й дывізія будзе наша!»? Хіба што спадзяваўся на нейкі пралом, ці быў гэта крык роспачы бясьсільнага геройскага сялянскага сына!

Кадэты школы камандзераў БКА ня мелі магчымасьці бліжэй пазнаць капітана Ласкутовіча. Шматлікім ён выдаваўся «надзьмутым, напампаваным з вонкавай палітурай». Відаць, ён належыць да людзей, што не адразу адкрываюцца, адносна якіх на першы погляд мыляешся, а пасьля, пазнаўшы іх бліжэй, прыемна рашчароўваешся. Такім было і маё знаёмства з капітанам Ласкутовічам. Ці-ж трэба яшчэ казаць, што я задаволены тым, што мой першы погляд быў памылковым?

**К. Акула**

## У Беларусі мае быць пабудаваны адзін з найбольшых каналаў сьвету

Як паведаміла савецкая прэса, праз заходнюю частку Беларусі мае быць пракапаны канал, які злучыць водную сыстэму Дняпра і Нёману, а праз гэта Чорнае мора з Балтыцкім. На тэрыторыі Беларусі водная траса мае прайсьці па рэках Прыпяці, Ясельдзе, Шчары і Нёмане. Даўжыся каналу паміж Прыпяцяй і Нёманам, які трэба пракапаць, складае 220 кілямэтраў. Менская газэта «Звязда» пісала аб гэтым:

«Пабудова Чорнаморска-Балтыцкай трасы вырашыць ня толькі вадатранспартную праблему. У раёне Прыпяці будуць створаныя спрыяльныя ўмовы для асушэньня звыш чатырох мільёнаў гэктараў балотаў...»

«Траса паміж Прыпяцяй і Нёманам будзе буйнейшай на зямлі. Па аб'ёму будаўніцтва, абсталяваньня яна зойме адно зь першых месцаў сярод найвялікшых морскіх каналаў сьвету. Паводля даўжыні канал уступіць толькі Беламорска-Балтыцкаму, а паводля аб'ёму працаў — Панамскаму. Але-ж паводля абодвух паказчыкаў перавысіць каналы імя Масквы, Суэцкі, Волга-Донскі, Кільскі. У недалёкай будучыні тут пабачым параходы грузападыймальнасьцяй 5 тысяч тон.»

Паводля «Зьвязды». будаўніцтва каналу зойме каля 4 год.

З эканамічнага пункту гледжаньня, пры цяперашніх дзяржаўна-палітычных абставінах канал будзе мець гэтак званае ўсесаюзнае значэньне. Цяжка меркаваць, якое ён зможа мець значэньне для эканомікі Беларусі, бо ў цяперашняй савецкай эканамічнай сыстэме ўсе рэсурсы выкарыстоўваюцца вылучна для мэтаў маскоўскае імпэрыі. Адзіным непасрэдным вынікам будаўніцтва для гаспадаркі Беларусі можа быць разьвязка праблемы асушэньня Палескай нізіны, за што савецкая ўлада бралася ўжо ня раз, але да гэтага часу без якіх-небудзь значных вынікаў.

Уладзімер Сяляніч

# Польская палітыка ў дачыненьні да Беларусаў

На гэткую тэму ў нумарох 834 і 856 тыднёвіка «Вядомасьці» зьявіліся артыкулы спадарыні **Барбары Тапорскай.** Асабліва другі артыкул, вялічынёю на паўтары балонкі вялікага газэтнага фармату, падае зь вялікай дакладнасьцяй ды веданьнем праблемы шматлікія факты з польска-беларускіх суадносінаў на працягу гісторыі, а асабліва міжваеннага дваццацігодзьдзя. Пад бальшынёй выснаваў сп-ні Тапорскай кажны беларускі патрыёт можа падпісацца.

Аднак-жа справа ў тым, што і ў сп-ні Тапорскай ёсьць некалькі тэзаў памылковых, над якімі і трэба крыху спыніцца.

Польскія публіцыстыя часта выкарыстоўваюць факт, што быццам-бы ў пачатку дваццатага стагодзьдзя нацыянальная сьведамасьць Беларусаў была роўная нулю. Гэта абсалютная няпраўда. Беларуская нацыянальная сьведамасьць — такая-ж старая, як і польская. Яна праяўляецца на працягу ўсяе гісторыі беларускага народу. Ужо Крывічы, Дрыгавічы, Радзімічы, Вяцічы і Северане мужна змагаліся за сваю нацыянальную апрычонасьць. Аб гэтым змаганьні пішуць тагачасныя хронікі. Дастаткова падаць хоць-бы прыклады Рагвалода — князя Полацкага, ягонай дачкі Рагнеды, Усяслава Чарадзея ды іншых. Гэта ўсё гістарычныя пэрсанажы й падзеі ня менш выдатныя, чымся гісторыя тагачасных польскіх князёў — Пястаў.

У другім пэрыядзе гісторыі беларускага народу — пэрыядзе літоўскім — беларускія баяры хутка падпарадкавалі сабе ўсё палітычнае жыцьцё краіны ды змагаліся на межах сваёй дзяржавы з Татарамі, Маскалямі, Крыжакамі. Змагаліся над Калкай, пад Масквою, Грунвальдам. Ува нутраных дачыненьнях тагачасныя беларускія князі-валадары моцна бараніліся ад усялякае залежнасьці.

Усё гэта адбывалася яшчэ перад Люблінскай вуніяй. І толькі гэтая вунія адчыніла дзьверы для пранікаmaking ў наш край «вышэйшай» польскай культуры, што ўрэшце давяло да гэтак «высока маральных» прынцыпаў, як «лібэрум вэто», ці «пій, едз і попушчай паса» ў галіне дзяржаўнай палітыкі. У выніку Рэчыпаспалітая (ня польская, а проста Рэчыпаспалітая двух народаў) была падзеленая між суседзямі, а ў Беларусі шляхоцкую анархію замяніў царскі дэспатызм.

Масква, захопліваючы землі Вялікага Княства Літоўскага, падзяліла таксама слаўную спадчыну Ягайлавічаў. Яна, Масква, каб апраўдаць свой рабунак, стварыла сваю тэорыю аб заваяваньні Беларусі Ліцьвінамі ды назоў «Літва» аддала малой правінцыі Вялікага Княства Літоўскага — Жамойдзі. Бальшыня кіраўнічага элемэнту, здэмаралізаванага ўжо «вышэйшай польскай культурай», Масква аддала Палякам, атаесамліваючы каталікоў з Палякамі (для Расейца, зрэшты, яшчэ і сяньня каталік і Паляк —— гэта сынонімы). Працавіты-ж народ ды зямлю яна забрала сабе для бязьлітаснай экспляатацыі. Нашы суседзі ахвотна хапіліся за гэтую канцэпцыю, каб пасьля самым захліпнуцца гэтым «дарам».

Беларускаму сялянству Масква накінула назоў Белыя-Русы. Іван Грозны назваў Белай-Русяй землі, адваяваныя ад Вялікага Княства Літоўскага на ўсход ад Дняпра ў XVI стагодзьдзі, пасьля Кацярына II пашырыла яго на ўсе праваслаўныя землі Вялікага Княства Літоўскага, Мікалай І забараніў гэты назоў, замяняючы яго на «Северо-Западный Край». Наш народ быў так запалонены, што ня меў магчымасьці скарыстаць ні зь «Вясны Народаў» 1848 году ні зь індустрыялізацыі. Падняў яго на змаганьне Кастусь Каліноўскі сто год таму. Ён нясьмела пачаў ужываць слова Беларусь, а ягоныя пасьлядоўнікі, Франьцішак Багушэвіч у першую чаргу, замацавалі гэты назоў для нашага краю. Пры гэтым трэба адзначыць, што справа нашага нацыянальнага назову і сяньня выклікае часам нутраныя непаразуменьні. Але сяньняшні час найменш прыдатны для спрэчак на гэтую тэму. Зрэшты, ня толькі наш народ зьмяняў свой назоў на працягу гісторыі.

Паклікаючыся да вышэйсказанага, трэба адзначыць тут і яшчэ некалькі фактаў. Ведама, што на гэтых абшарах на працягу стагодзьдзяў адбывалася змаганьне паміж праваслаўем і каталіцтвам. Здаўна праваслаўныя зваліся тут Русінамі, бо вызнавалі «рускую» веру, якая прыйшла сюды з Русі (Кіеўшчыны), а пасьля расейскага захопу Вялікага Княства Літоўскага каталіцтва было тут ахрышчанае «польскай» верай. Няма нічога дзіўнага, што каталіцкім ксяндзом, якія былі ці пачуваліся амаль поўнасьцяй Палякамі лёгка было супаставіць канцоўку Бела- р у с і з «рускай верай». А трэба ведаць, што ксёндз, побач пана, быў адзіным судзьдзём і «аўтарытэтам» сярод дробнай шляхты ды каталіцкага сялянства. Зрэштаю «руская» вера тады выкарыстоўвалася Масквой для русыфікацыі краю.

А цяпер факты з найноўшай гісторыі. Немцы ў 1916-ым годзе ня былі ўжо такімі беларускімі народнікамі, як гэта некаторым здаецца. Ведама, што спалянізаваная шляхта і абшарнікі мелі ў сваіх руках вялізарныя зямельныя фонды. Нямеччына-ж была імпэрыяльнай і базавалася таксама на сваіх юнкерах. Якраз гэтыя юнкеры былі ахвіцэрамі ў тадышняй нямецкай арміі ды камэндантамі на мясцох у акупаванай імі Беларусі. Выбіраючы між далёка заавансаванай ўлева беларускай інтэлігэнцыяй з аднаго боку і магнатамі ды шляхтай —

# Масква звольніла Мітрапаліта Сліпога



**9-га лютага сёлета прыбыў у Рым Першагерарх Украінцаў-каталікоў Высокапрэасьвяшчэнны Уладыка Сліпы, Галіцкі Мітрапаліт і Львоўскі Архіяпіскап, звольнены з бальшавіцкай вязьніцы, пасьля адбыцьця 18-ці гадовага зьняволеньня.**
**На здымку: Мітрапаліт Сліпы (з правага боку) у Ватыкане.**

# ГАРЫСЛАВА

**(Заканчэньне з 2-ой бач.)**

славино, от нея же роди 4 сыны: Изеслава, Мьстислава, Ярослава, Всеволода, а 2 тчери... А наложьниць бе у него: 300 Вышегороде, а 300 в Болгарех, а 200 на Берестове в селци, еже зоуть ныне Берестовое»). — Калі мова йдзе пра гэтую другую Рагнеду, дык даволі-ж сумлеўна, каб яна — родзячы Валадзімеру кажны год сына або дачку — мела падставы наракаць на нястачу каханьня.

(Яна: «Найлепшыя гады свайго жыцьця я аддала табе, цяпер-жа, калі я пачала старэцца, ты ўжо на мяне і глянуць ня хочаш.»

Ён: «Аб гэтых найлепшых гадох жыцьця я чую штодзень. Зразумей-жа, жанчына, што я маю тысячу жонак і кажная мне тое самае гаворыць. Даўно ўжо, відаць, пара зьмяніць мне рэлігію»).

У Цьверскім летапісе ёсьць лягенда, якая расказвае, як Валадзімер, прыняўшы хрысьціянства, разводзіўся із сваёй жонкай Рагнедай, прапануючы ёй выйсьці замуж за іншага. Яна яму адказала: «Или ты единь хощещи царствие небесное и земное восприяти, а мне маловременным сим и будущего дати не хощеши. Ты бо отступи от идолскыя прелести в сыновление Божие, аз же, быв царицею, не хоцу раба быти земному цару, ни князю, но уневеститися хоцу Христови и восприиму ангельский образ.» — Так адказаць магла не Гарыслава, але законная жонка («быв царицею»), і гэта не лягенда аб Рагнедзе-Гарыславе, але аб Рагнедзе — матцы Яраслава.

Здавалася-б, што Рагнеду, створаную на чужым грунце, пераносячы, як нацыянальнага героя, на свой грунт, перш за ўсё трэба было-б падумаць — каторую з іх перанесьці. Але, як ведама, перанесьлі дзьве, ці — лепш кажучы — спалучылі дзьве Рагнеды ў вадну і стварылі курам на сьмех — трэйцюю («на тое яна й Гарыслава, ёй ня прызвычайвацца»). У выніку — лягенда аб Рагнедзе-Гарыславе, задуманая, як вытлумачэньне барацьбы крывіцкіх князёў з рускімі, цяпер, калі Рагнеда зрабілася маткай ня толькі крывіцкага Ізяслава, але і рускага Яраслава — страціла ўсякі сэнс. Бо-ж і за якую гэта «Рагнедзіну крыўду» меліся помсьціцца нашчадкі Ізяслава на нашчадках Яраслава, калі Рагнеда была прабабкай як адных так і другіх?..

Аўтар лягенды аб Рагнедзе-Гарыславе, паводля звычаю свайго часу, (які вымагаў, каб пануючыя дынастыі былі калі ня боскага, дык чужаземнага паходжаньня), аб бацьку Рагнеды выразіўся, што ён «перешел из заморья». Гэта было ветлівасьцяй з боку аўтара лягенды. Але калі сягоньня нашы прапагатары культу Рагнеды з Рагвалода робяць нармана, а з Рагнеды (якую яны-ж кананізуюць на нацыянальнага нашага героя) — нарманскую дзеўку, дык аб ніякай ветлівасьці — ані адносна Рагнеды ані адносна нас — гаварыць не даводзіцца.

Масква, якая — нэгуючы існаваньне беларускай нацыянальнай гісторыі — нахабна цьвердзіць, што мы ніколі ня мелі свае дзяржаўнасьці, — павесілася-б з радасьці, каб мы — закахаўшыся ў Рагнедзе — так здурэлі, што ўрэшце паверылі — быццам першымі князямі і тварцамі Полацкага княства былі нарманы; быццам Полацак быў заваяваны Кіевам, быццам Полацкае княства, як руская правінцыя, было кіраванае нашчадкамі рускага Валадзімера; і быццам войны паміж Полацкам і Кіевам гэта былі хатнія або фэадальныя войны на ўдзелы раздробленнай Адзінай-недзелімай... З увагі-ж на тое, што гэтыя маскоўскія брэдні базуюцца на лягендзе аб Рагнедзе, няма дзіва, што Рагнеда сягоньня для Масквы гэта Мона Ліза, а для нас — Траянскі конь, або — мадэрна кажучы — Маскоўскі конь у беларускай Троі.

**Часлаў Будзька**

### ІМЯНІНЫ А. МІХАІЛА У КАНАДЗЕ

18 лістапада мінулага году сябры парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта ўшанавалі настаяцеля Царквы а. Міхаіла, адзначыўшы дзень ягоных імянін супольным абедам і сьціплым падаркам. Пры супольным стале, пасьля Літургії, было праведзена каля дзьвюх гадзін ў прыемнай размове.

### СЬВЯТКАВАНЬНЕ ДНЯ ГЕРОЯЎ

Адбылося ў Таронта 2 сьнежаня, пасьля адслужэньня сьв. Паніхіды ў Царкве сьв. Кірылы Тураўскага. Даклад чытаў сп-р М. Ганько, Барановічавы дзеткі дэклямавалі вершы, Валя Навіцкая грала на пііяніне. Пасьля быў наладжаны супольны абед.

**К. А.**

## ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

**Беларуская школа-інтэрнат імя сьв. Кірылы Тураўскага у Лёндане ўжо прыймае ўступныя заявы ад кандыдатаў на новы школьны год, які пачынаецца ў верасьні 1963 году.**

**Кандыдаты павінны быць хлапцамі беларускага паходжаньня, г. зн. прынамсі адзін зь іхных бацькоў павінен быць Беларусам. Яны павінны мець скончаных 8, але меньш чым 12, гадоў перад 1-шым верасьнем 1963 году.**

**Лік вольных месцаў у школе — вельмі абмежаваны. Заявы будуць разглядацца ў парадку атрыманьня. Дзеля гэтага ўсе бацькі, якія жадалі-бы паслаць сваіх сыноў у Школу сьв. Кірылы Тураўскага ў наступным школьным годзе, павінны ў сваім собскім інтарэсе зьвярнуцца ў гэтай справе як найхутчэй да кіраўніцтва школы.**

**Ува ўсіх справах зьвязаных з школаю трэба зьвяртацца да айца Кіраўніка, які будзе заўсёды рады даць усе неабходныя інфармацыі і выслаць праспэкт школы тым, якія яго жадаюць.**

**Пісаць трэба на адрас:**

The Rev. Headmaster
St. Cyril's House
41, Holden Road, London, N. 12

# Беларуская школа імя сьв. Кірылы Тураўскага у Лёндане

Беларуская школа-інтэрнат імя сьв. Кірылы Тураўскага ў Лёндане была заснаваная ў 1961-ым годзе з мэтаю маральнага і нацыянальнага ўзгадаваньня беларускіх хлапцоў на чужыне. Даючы ім здабыць добрую сярэднюю асьвету, школа адначасова імкнецца вырабіць у вучняў сьведамасьць іхнага беларускага паходжаньня і любоў ды пашану да ўсяго беларускага.

Школа знаходзіцца пад кіраўніцтвам сьвятароў Беларускай Каталіцкай Місіі ў Ангельшчыне. У яе прыймаюцца сыны беларускіх бацькоў у веку ад 8-мі да 11-ці гадоў. Вучням даецца магчымасьць атрымаць поўную пачатковую і сярэднюю асьвету на ўзроўні ангельскай «Грамар Скул».

Згодна з умоваю з суседнімі ангельскімі прыватнымі каталіцкімі школамі, беларускія вучні атрымоўваюць там асьвету з усіх прадметаў, акрамя беларусаведы. Дома, гэта значыць — у інтэрнаце, яны маюць лекцыі зь беларусаведы і, апрача гэтага, нагляд і фаховую дапамогу ўва ўсіх прадметах навучаньня.

Такім чынам, вучні школы сьв. Кірылы Тураўскага маюць адзіную нагоду атрыманьня добрай ангельскай сярэдняй асьветы ў спалучэньні з пазнаньнем прыгожасьці і багацьця беларускай культуры. Добрая асьвета дасьць ім магчымасьць заняць адпаведныя месцы ў грамадзтве, дзе-б яны ня былі. З другога боку — яны захаваюць сваю нацыянальную апрычонасьць і ня толькі ня будуць чуцца ніжэйшымі ў параўнаньні зь іншымі, але будуць гордымі з свайго беларускага паходжаньня.

У школу прыймаюцца як каталікі, так і праваслаўныя. Вялікая ўвага зьвяртаецца на рэлігійнае і маральнае ўзгадаваньне, аднак кіраўніцтва шануе волю бацькоў адносна веравызнаньня іхных сыноў.

Хлопцам даюцца вялікія магчымасьці разьвіцьця іхных індывідуальных здольнасьцяў. Шмат часу аддаецца сьпеву, рысаваньню, мастацкай самадзейнасьці, ручным работам і г. д.

У парадку дня школы прадбачыцца дастаткова часу для адпачынку хлапцоў. Вялікі пляц і сад даюць нязьлічоныя магчымасьці для спорту і гульняў на сьвежым паветры. У дрэнную пагоду вучні адпачываюць у спэцыяльнай залі да гульняў.

Ува ўсіх справах зьвязаных із школай трэба зьвяртацца да айца Кіраўніка, які будзе заўсёды рады даць усе неабходныя весткі.

Глядзеце адмысловае паведамленьне аб гэтым, якое зьмешчана на гэтай-жа бачынцы.

# У 40-ы дзень сьмерці прат. Палякова

Гэта дзень, калі душа новаспачыўшага прайшла ўсе шляхі, па якіх адлучыўшыся ад цела павінна прайсьці, а апынуўшыся ў страшнага Прастолу Славы Господняе, і чакаючы із страхам Ягонага прысуду, узносяцца малітвы Нашаму Нябеснаму Уладару, каб дараваў грахі, памерламу, а душу пасяліў дзе няма хваробы, смутку й скрухі, але ёсьць жыцьцё вечнае.

Сьв. памяці а. Захары належаў да тых сьвятароў, якія пакідаюць пасьля сябе незабыўную памяць. Ня лёгкі жыцьцёвы шлях прайшоў ён на працягу свайго жыцьця. Будучы казацкім нацыяналістым шмат прышлося перацерпець яму зьдзекаў і перасьледваньняў з боку бязбожных чыньнікаў, жывучы яшчэ на радзіме.

У 1939 годзе, пасьля акупацыі бальшавікамі Заходняе Беларусі, а. Захараму разам з сямейкаю ўдалося перасяліцца на жыцьцё ў Беласток. Тут, дзякуючы свёй матушцы-беларусцы, навязваецца лучнасьць зь беларускім грамадзтвам, якая сталася ня толькі прыязнаю і неразлучанаю аж да самае сьмерці, але спалучана з любоўю й спагадаю да беларускага народу.

Асаблівым доказам гэтага зьяўляюцца пражытыя гады а. Захарыя ў Англіі, дзе ён быў ня толькі духовым апякуном Казакаў, але магчыма ў большай меры Беларусаў. Ня было здарэньня, каб а. Захары адмовіў камусьці зь Беларусаў душапастырскае апекі, або парады. Будучы сам знаўцам сьпеву і добрым рэгентам, маючы ў дапамозе матушку з надзвычайна моцным голасам-сапрана, сына і дачку — тэнар і альт, а сам магутны бас, а. Захары на заклік заўсёды горача адзываўся, прыяжджаючы разам з хорам, каб прыгожым сьпевам узьняць малітоўны настрой беларускіх вернікаў.

Разнаякая і багатая была натура спачыўшага. Практыка, войстры розум, вынятковая энэргія спалучаная з нутраным непакоем і захадамі аб палепшаньні рэлігійнага жыцьця, узмацоўвалі ў ім веру ў асягненьні гэтых плянаў.

Перадчасная сьверць забрала ад нашых вернікаў таго, хто ня будучы Беларусам, праявіў да іх хрысьціянскую любоў, здабываючы ўзамен давер і прыхільнасьць.

А таму ў падзяку за шчырую апеку, за дабрачыннасьць для беларускіх вернікаў, а асабліва з Манчэстэр, памяць аб Табе, Дарагі Ойча Захары, мы захаваем на працягу ўсяго нашага жыцьця Чужая зямелька няхай будзе Табе пухам.

Вечная памяць Табе, Духовы апякун і змагар за духовую і агульначалавечую вольнасьць!

**а. А-дар**

з другога, зусім зразумела, што Немцы хутчэй падпадалі пад уплывы апошніх. Ня трэба таксама забывацца, што ў Варшаве ў той час, куды кіраваліся вочы польскіх і спалянізаваных магнатаў і шляхты, дзеіў «Начэльны Комітэт Народовы», падтрымоўваны Немцамі ды адтуль пасоўваліся легіёны Пілсудскага. Да якой ступені гэтыя акалічнасьці важылі на арыентацыі шляхты — хай сьветчыць той факт, што навет Доўбар-Мусьніцкі склаў без супраціву зброю перад Немцамі, якія два гады пазьней занялі цэнтральную Беларусь. Ды як-жа Немцы падтрымоўвалі беларускі вызвольны рух, калі ў Берасьцейскім трактаце Беларусь была падзеленая паміж Маскоўшчынай, Жамойдзяй і Украінай? Навет беларуская дэлегацыя на гэтую канфэрэнцыю ня была пакліканая.

Палякі ўсё гэта добра ведаюць, і калі тэндэнцыйна выкрыўляюць і выкарыстоўваюць факты зь беларускага мінулага — дык ёсьць у гэтым што найменш нячэснасьць.

І вось яшчэ адзін момант. Калі толькі Немцы выдалі дэкрэт аб раўнаўпраўненьні беларускай мовы зь іншымі мовамі, адразу-ж пасыпаліся заявы з дамаганьнем адкрыцьця беларускіх школаў. Хапіла, каб селянін пабачыў, што беларуская мова мае ўсе тыя правы, што й іншыя мовы, як паўстала жаданьне вучыцца ў сваёй роднай мове. Колькасьць школ, адчыненых тады ў заходняй частцы Беларусі — гэта тагачасны ганаровы плебісцыт у карысьць беларускасьці.

У спадарыні Тапорскай сустракаюцца цьверджаньні, быццам Беларусаў навука ня цікавіла і быццам яны ня маюць навет жалю да Палякаў за тое, што яны іх гэтай навукі пазбавілі. Гэта таксама ня згоднае з рэчаіснасьцяй. Беларусы заўсёды дацэньвалі значэньне навукі і стараліся здабыць яе, дзе толькі гэта было магчымым. Францішак Скарына ў свой час прайшоў усю Эўропу, каб стацца вялікім навукоўцам. Але гэта старая мінуўшчына. У нашую пару беларускае сялянства выкарыстоўвала ўсе магчымасьці, каб вучыцца. Вышэй пададзены прыклад зь беларускімі школамі, імкненьне да навукі ў падсавецкай Беларусі, ў дасталінскія часы, пасьля падчас другой нямецкай акупацыі ды й цяпер на чужыне, усё гэта сьветчыць аб няправільнасьці цьверджаньняў спадарыні Тапорскай. Калі-ж вярнуцца да навучаньня ў Заходняй Беларусі пад польскай акупацыяй дык тут — папершае — навука каштавала вельмі й вельмі дорага. Селянін, які наважваўся вучыць хоць-бы адно сваё дзіця, павінен быў прадаць сваю гаспадарку, ці прынамся частку яе. А гэтае дзіцё, пасьля здабытай з такім вялікім высілкам і сяродкаў навукі, мусіла падацца за Паляка, перайсьці на каталіцтва, калі яно было з праваслаўнай сям'і, наагул — мусіла стацца рэнэгатам, каб пазьней здабыць працу. Таму беларускі селянін заставаўся без асьветы, але на сваёй роднай гаспадарцы ды пры сваёй веры і традыцыях.

Далей сп-ня Тапорская цьвердзіць, што Беларус больш за нацыянальныя скарбы хоча кавалка зямлі. Гэта праўда — але чаму? Вось-жа людзкая натура ўжо такая, што ў першую чаргу прагне таго, што ў дадзеную хвіліну найбольш патрэбнае. Уласны варштат працы — гэта гіерархічна найніжэйшая ступень людзкіх патрэбаў, таму што галодны патрабуе перадусім кавалка, хай сабе і чорнага, хлеба. Але з мамэнтам, калі заспакоіць самыя неабходныя і элемэнтарныя патрэбы, паўстае патрэба і імкненьне да культурных вартасьцяў. Якраз дзеля гэтага беларуская незалежніцкая інтэлігенцыя ў 1918-ым годзе эканамічныя праблемы ставіла зараз-жа пасьля ахвармленьня палітычнага ладу і перад культурнымі праблемамі (чытай Другую Ўстаўную Грамату Рады БНР зь 9-га сакавіка 1918 году). Зрэшты, падаючы прыклад Летувісаў аўтарка сама падказвае, што толькі ў сваёй уласнай дзяржаве народ мае адпаведныя ўмовы для такога наладжаньня жыцьця, якое яму найбольш адпавядае. Беларуская-ж інтэлігенцыя здаўна ведала, што вольная і ўласная дзяржава — гэта адзіны шлях, каб ратаваць нацыю ад зьнішчэньня і даць ёй магчымасьць да ўсебаковага і гарманійнага разьвіцьця.

Сьвятую праўду кажа спадарыня Тапорская, калі гаворыць аб тым, што гэта Палякі вінаватыя за ўсё, што сталася ў польска-беларускіх дачыненьнях, і што Палякі мусілі-б выявіць ініцыятыву, каб зло направіць. З свайго боку падкажам, што гэта ня так ужо і цяжка. Хопіць толькі, каб Палякі адкінулі думку аб Польшчы «ад мора да мора», думку аб сваёй «вышэйшасьці» ды «Ягелёнскую ідэю», якая памерла якраз з прычыны польскага нацыяналізму.

У вадказах на артыкул спадарыні Тапорскай некаторыя Палякі стараюцца апраўдаць свае неэтычныя акты тым, што, маўляў, Немцы ці Расейцы яшчэ горш зьдзекваліся ці зьдзекуюцца над сваімі суседзямі. Але ў дадзеным выпадку «лепш» не азначае «добра». Яны кажуць, што Ангельцы ня былі лепшымі ў дачыненьні да Нэграў, Гішпанцы — да Каталёнцаў, Французы — да Брэтонцаў і г. д. Нам цяжка сказаць, якімі-б мы былі-б на іхным месцы, бо на працягу ўсяе свае гісторыі панявольнікамі чужое свабоды мы ня былі.

Робячы-ж агульны выснаў, якога гэтак баяцца даўнейшыя калянізатары а сяньняшнія «аб'яднальнікі», трэба сказаць, што некаторыя нацыі далёка не дарасьлі да таго, каб рэспэктаваць правы іншай нацыі, ды імкнуцца выкарыстаць яе для сваіх нацыянальных амбіцыяў. Адказы Палякаў на выснавы спадарыні Тапорскай пацьвярджаюць яшчэ адзін лішні раз, што Палякі могуць сьмела прэтэндаваць на чэмпіянат у гэтых дачыненьнях.

